# Ніва

Тыднёвік Беларускага грамадска-культурнага таварыства

№ 44 (975) ГОД XIX 3 ЛІСТАПАДА 1974 г. ЦАНА 60 гр.


## З візітам у Чыжах

Люблю наведваць Чыжы. Вёска вялікая, адна з найбольшых у Гайнаўскім павеце. Асеннім днём іду яе вуліцай, прыглядаюся да сялянскіх сялібаў і гадаю, што за імі хаваецца. Вёска задбаная, багатая. Усё часцей сустракаю тут металічныя, адмыслова памаляваныя агароджы, за якімі шмат ужо новамодных мураваных асабнякоў.

*

Даўняя школа ў Чыжах памятае яшчэ цара Мікалая. Але побач яе ўжо ўзвышаецца новы школьны будынак, у якім дзеці распачалі навуку толькі ў гэтым школьным годзе.

— Віншую вас з наваселлем, — звяртаюся да дырэктара школы **Эдварда Бая.** Ён дзякуе, але ў яго голасе няма ані крыху радасці.

— Бачыце, — гаворыць. — жыхары вёскі Чыжы ўжо даўным-даўно змагаліся за новую школу. А калі супольнымі сіламі дабіліся таго, што ўвялі іх прапанову ў інвестыцыйны план, калі распачалі пабудову, тады пачулі аб асветнай рэформе, аб сістэме зборных гмінных школ. Было ўжо запозна, каб спыняць будаўніцтва і распачынаць усё ад пачатку. У выніку гэтага маем мы новую школу і старыя клопаты. Вельмі цесна ў нас. У шасці лекцыйных залах вымушаны мы ўмясціць 10 класаў. Няма зусім залы для фізкультурных заняткаў, няма прадметных кабінетаў. Толькі адна майстэрня для практычных заняткаў. Мала месца ў школьнай святліцы, якая аднначасова з'яўляецца вучнёўскай сталовай. Няма памяшканняў для 10 настаўнікаў. Пры гэтых умовах вельмі цяжка ажыццяўляць багатую праграму гміннай школы.

— Што на гэта вашы ўлады?

— Рашылі разбудаваць нашу школу. Толькі бяда ў тым, што школьная пляцоўка надта ж вузкая, а па абодвух баках жывуць гаспадары. Хіба што адзін з іх захоча адступіць нам сваю сялібу.

— Калі распачнецца гэтая разбудова новай школы?

— Абяцаюць, што ў 1976 годзе, бо неабходна зрабіць спецыяльны план, а пасля яго зацвердзіць, а пасля...

Так, сапраўды, толькі спачуваць дырэктару Баю.

Цяпер у Чыжы ходзяць у школу дзеці з далёкіх вёсак. Яны карыстаюцца транспартам ПКС-у. Аднак хутчэй можна выйграць прэмію ў „тота-лотку", чым папасці на аўтобус ПКС-у.

— На 10 курсаў у напрамку Гайнаўкі, якія ёсць у расписанні, — сцвярджае дырэктар, — кожны дзень няма 4-5 аўтобусаў. А найгорш, што мы зусім не ведаем, якіх аўтобусаў у гэты дзень не будзе. Дык часта бывае і так, што шмат дзяцей зусім не можа дабрацца ў школу

(Працяг на стар. 4)

З ПЕСНЯЙ НАСУСТРАЧ XXX-ГОДДЗЮ ПНР



**МІКАЛАЙ ПАРФЕНЮК**

Мікалай Парфенюк з Вулькі Нурэцкай Сямяціцкага павету на сёлетнім цэнтральным аглядзе БГКТ заняў трэцяе месца ў катэгорыі сучаснай песні ў групе салістаў. Фота **А. Карпюка.**

## Першы год і перспектывы

Працэс старэння вёскі, адыход з яе рабочай сілы ў гарады, а ў выніку гэтага — значная колькасць сялян-пенсіянераў, пакінутыя гаспадаркі і немалыя абшары неапрацаванай зямлі з'яўляліся дагэтуль найбольшай праблемай у сельскай гаспадарцы ўсходняй часткі Сакольскага павету.

Вось хоць бы ў гміне Крынкі, як паведаміў сакратар гміннага ўпраўлення Ч. Беткал, цяпер ёсць 2700 га дзяржаўнага фонду зямлі, з якога ўсяго толькі 796 га апрацоўваюць сяляне і 143 га — сельскагаспадарчыя гурткі. У гміне ляжаць 74 новыя заявы ад старэчаў-сялян на перадачу зямлі за пенсію. Прадбачваецца, што да 1980 г. у гэтай гміне колькасць зямлі ў дзяржаўным уладанні дойдзе да 4 тысяч га. Мала лепш выглядае гэтая справа і ў суседніх гмінах.

Але ўжо пад'язджаючы да мястэчка, здзіўляешся: замест раней зарослых чарнабылам і закіданых лысінамі валуноў бяспанскіх аблогаў паабапал дарогі бачым абшырныя прасторы заараной на зіму зямлі і добра ўрунеўшы вялікі палетак азімага рапаку. Значыць, знайшоўся гаспадар крынкаўскім аблогам і на іх зноў будзе хвалявацца цяжкое ад налiўнога зерня калоссе. А вось і ён — шматталінная дзяржаўная гаспадарка (ВПГР) у Крынках.



*Дырэктар ВПГР мгр інж. Андрэй Казерадскі.*

— Гаспадарым усяго толькі адзін год, — кажа дырэктар ВПГР-у **Андрэй Казерадскі.** — Як бачыце, пакуль што нават і свайго кутка не маем, цеснімся вось тут у прыватным доміку, а наш машынны парк — у двух будынках у вёсцы Горка. Адно толькі на ногі становімся. Маем ужо 3060 га, у тым 2372 га ворыўнай зямлі, праўда, у асноўным IVб — V класаў, заваленай валунамі ды месцамі зарослай лазой ды бярэзінай, што і носа не ўбіць. Але вось за год мы абсеялі 402 га жытам, 285 га аўсом, 714 га лубінам, 115 га пялюшкай і 310 га сырадэляй.

— На такіх запушчаных аблогах дык ураджаю няма чаго і спадзявацца, — заўважаю.

— Рэкордаў, пэўна, не мелі, але ўраджай, як на такой зямлі мы сабралі неблагі: жыта на планаваныя 15,5 ц/га дало 16,6 ц/га, авёс замест планаваных 20 ц/га сыпнуў 22,3 ц/га, нядрэнна таксама выйшлі лубін, пялюшка, сырадэля. Засеялі мы ўжо таксама ўпершыню ў гісторыі гэтых ваколіц 320 га зімовага рапаку. Наогул жа стараемся засяваць тыя расліны, якія ствараюць добрую структуру глебы пад будучыя больш патрабавальныя сельскагаспадарчыя культуры. Спадзяемся, што ўжо ў будучым годзе збярэм 22 ц/га, а на працягу 2-3 год будзем мець сярэдні ваяводскі ўраджай з гектара.

— Ці ёсць клопаты з машынамі?

— Не. Цяпер у нас ёсць 31 трактар, 7 камбайнаў „Візон-супер", грузавікі,

Працяг на стар. 4

## БГКТ хроніка

■ 14 кастрычніка адбылося пасяджэнне прэзідыума бельскага аддзела БГКТ, на якім была зроблена ацэнка фэстына БГКТ у Саках і абмеркаваны напрамкі працы ў галіне разбудовы БГКТ. Апрача таго, старшыня аддзела Аляксей Карпюк у сваім выступленні высока ацаніў арганізацыйнае забеспячэнне адбыўшагася з'езду выпускнікоў і выхаванкаў беларускага ліцэя ў Бельску, у падрыхтоўцы якога прымаў удзел таксама мясцовы аддзел БГКТ.

■ 20 кастрычніка жаночы харавы калектыў БГКТ з Гарадка выступаў на Сакольшчыне ў Сідэрцы і Сідры. На канцэртах было многа людзей.

■ Ваяводскае тарфяное прадпрыемства „Імшар", якое знаходзіцца за Міхаловам у Беластоцкім павеце, у памяшканні Галоўнага праўлення 19 кастрычніка арганізавала вечарынку для свайго працоўнага калектыву. Ахвотныя быць на ёй прыехалі ў Беласток транстартам прадпрыемства. Тут харавы і танцавальны калектывы гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку выступілі з цікавай праграмай, а пасля пад музыку інструментальнага калектыву аддзела да позняй ночы працягвалася танцавальная вечарына. (мх)

## Праз тыдзень у "Ніве"





*Беластоцкі пейзаж.* *Фота Я. Цялушэцкага*

# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ

№ 190


## Юбілейнае

*Удзельнікам I з'езду выпускнікоў і выхаванкаў Бельскага беларускага ліцэя ў XXX гадавіну існавання школы прысвячаю*

Усе мы выйшлі з навакольных сёлаў
I незлічонай колькасцю сцяжын
Прыйшлі сюды, да нашай роднай школы,
Здзяйсніць высакародны свой пачын.

Прыйшлі зачэрпнуць з ведаў мы крыніцы,
Прыйшлі, каб знік адвечнай цемры след.
Пазнаць прыйшлі мы свету таямніцы,
Вучыцца дасканаліць гэты свет.

I калі сёння ціс396нем мы далоні
Сябрам па парце, маладым тады,
Бачым, што многім пасівелі скроні,
Што крыху нас кранулі ўжо гады.

Усім сустрэцца нам было цікава,
Вярнуцца ў думках да мінулых спраў.
Шкада, няма між намі Ярaслава,
Які сябе нам поўнасцю аддаў,

Які быў нашым бацькам, педагогам,
Які заўжды нам дапамогу нёс,
Які нам ў заўтра пракладаў дарогу
I хваляваў якога ўсіх нас лёс.

I калі зноў, сябры, мы будзем дома,
Агорне нас жыццёвых спраў паток,
Не забывайма, дарагія, хто мы,
Што ўсіх яднае родны наш куток.

**Віктар Швед**

### НА РУОДНУЙ ЗЭМЛІЭ

*Вэсна...*
*олёс покрыты жовтым шалатём,*
*на кладці баба*
*полошчэ полотно.*
*Вэчэріе —*
*жабы рэхочут...*
*дэ нэ дэ цявкнэ соловіей.*

*

*А ліетом —*
*жар ліецьця з нэба,*
*і як солдаты стоят ў радках*
*Дывяцьця —*
*на остатні стэбла*
*прыбраны кветкамы*
*— то „пэрэпэліця“*
*стойіт*
*повна*
*урожаю.*

*

*Опадае лісьце*
*на*
*болотністу*
*дорогу...*
*— Осэнь...*
*шнурок крыклівых журавліов*
*плыв по нэбі голум.*

*

*А зімою...*
*гучнэ вэсіеле у нэдіелю.*
*Фурманкі —*
*в конях повага і дума,*
*ленты заплетяны у грывах*
*фуркочут*
*у сніежнуй*
*задымці.*
*— Сэрэд сэла*
*на узгорку цэрква,*
*кусочок старого, мынулого міру,*
*— хрысьцят*
*— вінчают*
*і адводят в остатню дорогу.*

*

*А вэсною*
*знов олёс покрыты*
*жовтым шалатём.*

**Іван Кірызюк**



* * *

*Дзе мы з табою сустрэнемся*
*калі высеклі пушчу мяшчане*
*і дзе ж тут знойдзем ратунак*
*як дрэвы — алёны жывічныя*
*пілы змянілі ў труны*
*дык чым у дні навальнічныя*
*прыкрыем мы пацалунак*
*як жа мы можам кахацца*
*калі лес нас рукой не захіліць*
*і песню спяваць навошта*
*як дрэва яе не паўторыць*
*як жа выплыве месяц*
*пад жыватом без бору*
*не не сустрэнемся люба*
*і радасць не вырасце ў дрэвах*
*і сэрцы не стануцца спевам*
*не выспее месяц кахання*
*бо высеклі пушчу мяшчане.*

**Алесь Барскі**



## АГАРОДНІК

Садзіць і садзіць
Агароднік ружы,
Без канца, без мэты
У спякоту, сцюжы.

Садзіць і садзіць
Ён ноччу зарыстай
На прасторы дзікім,
На зямлі скалістай.

Садзіць і верыць:
На зямлі скалістай
Запалаюць ружы
Сонцам прамяністым.

**Юрка Баена**



### АДЦВІТАННЕ

Адыйду ў невядомае
шляхам пратоптаным
мільёнамі ног прада мною
і я не буду апошнім
дзверы свядомасці
закрыюць мінулае
і жаль не ўспыхне
ў маёй застылай псіхіцы
ўстрывожыць дагасаннем
іней валос
і свядомасць свайго бяссілля
будуць
без нас зацвітаць
малаком гаманлівыя гады
і смех бесклапоцця
людзей ў час іх квітнення
болем зайздрасці ўколе ў сэрца
чорнай птушкай павісне
і над імі фатум смерці
пойдуць і яны за мною
за намі
за ўсімі.

**Кастусь Бандарук**

* * *

Вечарам
праціснутым скрозь зубы
калі і месяц
не хацеў прыйсці
з ласкі сваёй
і такі надуты
быў да канца
значыць
вечар быццам
скрозь зубы непатрэбны

Тады першы раз
закукавала зязюля
і трэба было мець грошы



кінуць за вокны
ці ў рову

Дрэвы хацелі плакаць
што так доўга
няма вясны

Такім вечарам
проста з неба
на ладоні
ўпала маленькая зорка

**Ірэна Баравік**

## МАГІЛЫ

На магілы часу, абазначаныя крыжамі нашай эры, падаюць ужо пажоўклыя лісці гэтага года. I бачыць тое цішыня, якой усё роўна, чыё стагоддзе на двары. Толькі над магіламі надзеяў, што спапяліліся ў прах бяссэнсу, хіляцца ўдовы чорныя з сівізнай недаўмення. I плачуць, плакаць яшчэ здольныя. Часамі рука, прыгожая бы гарачасць, запаліць свечку на магіле кахання. Пачуцці пахаваныя ў глыбінях болю.

Ідзе чалавек, спатыкаючыся перавaжна аб чужыя магілы. Калі нідзе нікога, ён укленчыць таксама і ля магілы сяброўства. I ля магілы чалавечнасці ўкленчыць.

Укленчыць ля магілы годнасці. З галавою на грудзях, са шчокамі ў пекле сораму, а з вачыма, пазычанымі ў сабакі. Не ўкленчыць — ля магілы мараў, абыдзе магілу веры. Як у горадзе, дзе ёсць дамы такія, да якіх падыходзяць з гонарам ды публічна, і такія, да якіх падыходзяць крадком і з аглядкаю. I такія ёсць дамы, да якіх ніхто не падыходзіць.

Магіла з часам западаецца. На яе месцы выкопваюць новую, адкрываючы са здзіўленнем даўнюю труну. На яе месца апускаюць новую.

**Сакрат Яновіч**



### ЖНІВЕНЬ

Каласіўся жнівень золатам рублёвым. Той пажне, хто сеяў. Ці старым ці новым, розніцы не будзе. Абы сеяў шчыра.

Разгарніся духам, сэрцам ў зямлю ўрэжся, шчодра скрапі потам, хрыбет трымай, як скрыпку, роўнаю струною. Хто карк сагнуў, хто зняўся пад бядою, пад тым, як багна, гнецца баразна, той ні адной палоскі не назве сваёю, той жаць не будзе.

Бо серпам ці касою, а мо машынаю — тут розніцы няма. Бо праўду калі сееш шчодраю рукою, куды б ні кідаў плённае зярня — яно ўзыйдзе.

I парасткі, як дзеці, пальцамі ў неба ткнуць у сваю зорку, каб зазіхацела тым святлом ядроным, што бацькі пеялі, што дзед успомніў сконам.

**Юрка Геніуш**

## Жыццё зямлі

*Кветкі свежай расы,*
*Каб пялёсткі абмыць,*
*Дачакацца не могуць —*
*чакаюць.*

*Рыбы чыстай вады*
*У брунатнай рацэ*
*Дашукацца не могуць —*
*шукаюць.*

*На лістах жывых дрэў*
*Пыл смяротны асеў.*
*Пажаўцелыя, зноў*
*ападаюць.*

*Травы ў гэтай бядзе*
*Адрастаюць радзей,*
*Пахіляюцца ўніз —*
*засыхаюць.*

*Думак клубіцца рой...*
*Чалавек той парой*
*Аб усім дарагім*
*забывае.*

*Дык няхай жа зямлю*
*I прыгожасць яе*
*Для сябе хоць жывой*
*захавае.*

**Л. Танкевіч**



**З візітам — гродзенцы**

### ТРАНШЭІ

Ляжаць забытыя траншэі,
Травой, як грывай, зараслі.
А як яны, нібы шынелі,
Вайной патрэбныя былі.

Ад сцюжы й ветру нас хавалі,
Ад восеньскіх дажджэй касых
I ўсю зіму мы іх капалі,
Хто заставаўся у жывых.

I пад агнём зямлю дзяўбалі
Штыком, рыдлёўкай, хто чым мог.
Нібы ступені пракладалі
З траншэяў тых. да перамог.

Не умясціць дліну ў маштабы
З траншэяў, вырытых ў зямлі,
Без іх з пабедаю мы, мабыць,
I да Берліна б не дайшлі.

**Васіль Гайда**

(Працяг са стар. 1)

# ПЕРШЫ ГОД і ПЕРСПЕКТЫВЫ

камплекты іншых сельскагаспадарчых машын. У будучым годзе атрымаем самы сучасны камбайн „Бізон-гігант“. У набыцці машын нам адкрыта зялёнае святло. Зрэшты, і трэба іх тут нямала. І не толькі для апрацоўкі зямлі ды збору ўраджаю. На працягу года адно з 400 га мы сцягнулі звыш 2 тысяч тон камення. І доўга яшчэ ўсе наступныя гады трэба будзе сцягваць яго сама меней па столькі ж. А будаўніцтва, а пад'язныя дарогі...

— Значыць, перспектывы вельмі працавітыя?

— І захапляючыя, можна смела сказаць рамантычныя.

— ?

— Наша гаспадарка да 1980 года будзе мець каля 10 тысяч гектараў і стане выключна спецыялістычным прадпрыемствам па гадоўлі авечак. У ёй паўстануць 4 вялікія фермы па 3 тысячы матак-авечак у кожнай. Значыць агульны стан пагалоўя складзе каля 20 тысяч авечак. Нашыя намеры ідуць у напрамку стварыць тут, на месцы, прамысловую базу перапрацоўкі гэтага прадукту гадоўлі. Будуць пабудаваны мясазавод і сучасная гарбарня, а нават, магчыма, і кушнерскае прадпрыемства. Так што праз якія 5—7 год прыязджайце сюды абсталёўваць сабе модны кажушок. Пры стварэнні гэтага вялікага прадпрыемства ўзяты пад увагу багатыя традыцыі Крынак і ваколіц у гадоўлі авечак і гарбарстве ў мінулым. Кошты інвестыцыі немалыя — 500 мільёнаў злотых, г.зн. па 50 тысяч зл на гектар паверхні.

— З чаго пачынаеце?

— Навесну будучага года пачынаем з пабудовы ў Крынках у раёне вуліцы Бэма сучаснага жыллёвага пасёлка. Паўстане ў ім 12 некалькіпавярховых дамоў, дзе кватэры будуць з высокім стандартам: вадой, цэнтральным ацяпленнем, газам, каналізацыяй. У пасёлку будзе дзіцячы сад і яслі на 120 месц, а таксама сучасны вялікі гандлёвы павільён. Усё мястэчка скарыстае на гэтай інвестыцыі, бо ёсць магчымасць пракласці ў ім таксама водаправод і пабудаваць сучасны ачышчальнік сцёкаў.

— А кадры працаўнікоў?

— Вось іменна з думкай аб будучых кадрах працаўнікоў для нашай гаспадаркі і пачынаем мы ад будаўніцтва жылля. Тут будзе працаваць сама меней 400 чалавек. Цяпер з Крынак і ваколіц даязджае да працы на будовы ў Саколку, Беласток і іншыя гарады каля 100 чалавек. Многія з іх ахвотна пяройдуць на работу да нас, будуць тут, на месцы.

У вёсцы Азерскія, што каля Крынак, мне давялося завесці размову з сялянамі на тэму ВПГР-у.

— Добра, добра гаспадараць, — сказаў мне Мікалай Семяняка. — Такую, пане, пустэчу загаспадарылі, а збожжа ў іх, як гай, летась шумела!..

Размаўляў **Мікалай Гайдук**
Фота аўтара



*Сцяг ваяводскаму каменданту перадае І сакратар ПК ПАРП А. Лазоўскі.*

## Сімвалы памяці і ўдзячнасці

Вельмі ўрачыста адзначала наша грамадства 30-ую гадавіну стварэння органаў грамадзянскай міліцыі і службы бяспекі. Людзі ў шэрых мундзірах атрымлівалі ўзнагароды, павышэнні, але найбольшай узнагародай былі словы ўдзячнасці насельніцтва, якое шчыра дзякуе ім за сёння і за мінулае.

Узнёслая ўрачыстасць адбылася у Бельскім павеце. У нядзелю 13 кастрычніка адбыўся ў Бельску ўрачысты мітынг. Нягледзячы на дажджовую пагоду, сабралася шмат насельніцтва, моладзі, прадстаўнікоў ваяводскіх і павятовых улад. З прамоваю выступае І сакратар павятовага камітэта ПАРП Аляксей Лазоўскі. Гаворыць ён аб Бельшчыне, якая пасля вызвалення была найбольшым паветам у краіне і дзе барацьба з рэакцыйным падполлем была асабліва цяжкая і доўгая. Успамінае людзей, якія загінулі за ўмацаванне народнай улады.

Старшыня павятовага камітэта ФАН — Анатоль Пасынюк зачытвае акт перадачы сцяга павятовай камэндзе МО ў Бельску, ахвяраванага насельніцтвам павету, як сімвал удзячнасці за гераічную барацьбу і працу над утрыманнем ладу і парадку. Гучаць шчырыя воплескі сабраных. Наступае найбольш урачысты момант. І сакратар Аляксей Лазоўскі і начальнік Дзімітр Ігнацюк уручаюць сцяг ваяводскаму каменданту — палкоўніку Бернарду Нарэнгоўскаму, а ён — калоне сцяганосцаў. Маршам калоны сцяганосцаў перад прысутнымі заканчваецца ўрачыстасць у Бельску.

Пасля абеда адбываецца ўрачыстасць у Боцьках. Гэта тут пастарунак міліцыі вельмі часта быў вымушаны крывава змагацца з бандамі, а найбольш грознымі былі напады 29 лютага і 7 мая 1945 года. Старэйшаму насельніцтву асабліва прыпамінаюцца тыя дні, калі глядзяць яны на прысутную на ўрачыстасці Яніну Антоняк, жонку Яна Антоняка, які, як камендант пастарунку ў Боцьках, разам з васьмю міліцыянтамі быў забіты бандай. Віцэ-ваявода Ежы Зентара на рукі ветэрана барацьбы Людовага Войска Польскага і міліцыі ст. сяржанта Казіміра Ленарта ўручае ганаровы знак „Заслужаны для Беласточчыны“ пастарунку МО ў Боцьках. Гэта яшчэ адзін сімвал удзячнасці міліцыянерам.

Каб увекавечыць памяць аб геройскай смерці каменданта пастарунку і яго сяброў, гміннай школе ў Боцьках прысвоена імя Яна Антоняка. Асабліва гэта важна для моладзі, якая не памятае тых поўных жаху дзён, у якія нараджалася наша сённяшняя рэчаіснасць. Аб тым, што будуць помніць светлую постаць Я. Антоняка і яго сяброў і прадаўжаць іх справу ў сённяшнім мірным будаўніцтве сацыялізму, запэўнілі прысутных дырэктар школы Ежы Казёл і вучань VII класа Андрэй Хібоўскі.

Урачыстасць у Боцьках закончылася пераклічкай загінуўшых і ганаровым салютам.

**А. Карпюк**
фота **З. Лянкевіча**



*Акт прысваення боцькаўскай школе імя Я. Антоняка прымае дырэктар школы з рук прадстаўніка куратоорыі Пятра Севасцьяновіча.*

(Працяг са стар. 1)

## З візітам у Чыжах

На гэтым прэтэнзіі ў адрас ПКС-у не канчаюцца. Адзін аўтобус, які раніцай прыбывае ў Чыжы, мае там 15-мінутны перапынак. За гэты час мог бы з'ездзіць у Лянева і прывезці адтуль вучняў. Аднак улады ПКС-аўскай камунікацыі нават і слухаць аб гэтым не хочуць.

* * *

Ад дырэктара школы іду з візітам да начальніка Чыжоўскай гміны **Юрыя Леўчука.** Не так даўно крыху мы паспорылі наконт развіцця жывёлагадоўлі ў Чыжоўскай гміне. Дык і на гэты раз распачынаем нашу размову ад гэтай тэмы.

— Паводле чэрвеньскага перапісу, — распачынае афіцыйным тонам мой размоўца, — на тэрыторыі нашай гміны, якая мае выключна сельскагаспадарчы характар, знаходзіцца 5. 856 кароў і 8.870 свіней. Планы ў галіне развіцця жывёлагадоўлі ажыццяўляем паспяхова. На працягу апошняга года колькасць кароў павялічылася ў нас на 440 штук, а свіней прыбавілася на 456 штук, што дае ў сярэднім амаль 84 штукі на 100 га зямельных угоддзяў.

Тут начальнік асабліва пахваліў гаспадароў з вёскі Лянева, у якой на кожныя 100 га зямельных угоддзяў прыпадае аж 120 свіней. Мала ўступаюць ім вёскі Лушча, Курашава і Падрэчаны. Крыху горш у Чыжах і Гукавічах, а зусім ужо дрэнна ў вёсках Ляды і Сапава.

Гляджу ў вакно, за якім безупынку імжыць дождж. З вясны шмат бульбы вымакла на загонах, пасля не можна было дабрацца да яе, каб абараць. Пазней дождж перашкодзіў ва ўборцы першага пакосу травы. Раскіслая, дажджлівая восень таксама не спрыяла ўборцы земляплодаў. А трэба ж пракарміць павялічаную колькасць кароў, свіней, авечак, коней...

Сваімі невясёлымі думкамі дзялюся з начальнікам, а ён мне гаворыць:

— Аграномы нашай гміны намаўлялі сялян, каб у адкорме свіней і быдла як найбольш выкарыстоўвалі зялёныя кармы і сілас, а таксама кармавыя буракі і бручку.

Сапраўды, варта скарыстаць з гэтай парады. Варта — хаця б дзеля таго, каб зрабіць сілас з трэцяга пакосу травы і бурачанага лісця, каб ранняй вясной пасеяць люцэрну ці нейкі іншы, буйна растучы зялёны корм.

**Максім Нурэцкі**



Беларуская літаратура — Аляксандар Баршчэўскі

## Нашаніўская пара

### МАКСІМ БАГДАНОВІЧ
### ЧАСТКА XXIV

**Феміністычная тэматыка і лірыка кахання.** Феміністычная або інакш жаночая тэматыка і звязаная з ёю тэма кахання — гэта матывы, якія занялі ў творчасці Багдановіча бадай найбольшую пазіцыю.

Адзін пералік вершаў, звязаных з гэтымі тэмамі, становіцца нялёгкай задачай. Варта, аднак, назваць найважнейшыя з іх: „Раманс“, „Сумна мне, а ў сэрцы смутак ціха запявае“, „Хоць мы былі адны ў той час“, „Пачуццю цёмнаму падлеглая“, „Цёмна неба начное“, „Да вагітнай“, „Дзераўлянае яечка“, „Як хораша, калі дзіцё“, „З енкам дзіцё ты раджаеш“, „Пасля радзін ты ўсё штодня марнееш“, „Смертию смерть поправ“, „Тым вянкі суворай славы“, „Белы крыж, пліта, пад ёй — магіла“, „Жывая лялечка! Не душу і не сэрца“, „Цяжарная“, „Раманс“ (другі), „Першая любоў“, „Маркотна я чакаю“, „Мне доўгае расстанне з Вамі“, „Успамін“, „Ты ночкаю каляднай варажыла“, „Санет“, „Я хацеў бы спаткацца з Вамі на вуліцы“, „Агата“, „Калі паласу агнявую“, „Маладыя гады“, „Мы гаворым удвух пры агні ў цішыне“, „Усё праходзе — і радасць, і мукі“, „Набягае яно вечарамі“, „О, сум, засні ў душы маёй“, „Я — непрыкметны, шэры чалавек“, „Ёсць гэткая японская забаўка“, „Йстужку сінію ўплятаю“, „Вы так часта пазіралі ў люстру“, „Халодная, ясная ноч“, „Толькі чаму ж гэта ў ночы глыбокія“, „Вашай цётцы, здаецца, вельмі прыемна“, „Мая гаспадыня“, „Усё адна цяпер мне думка сэрца сушыць“, „Больш за ўсё на свеце жадаю я“, „Буду сніць і днямі і начамі“, „Муар двума колерамі пераліваецца“, „Ці ведаеце Вы, цёмнавокая пані“, „Цёмнавокая пані, канец!“, „Апусціўшы густыя расніцы“, „Прычасціўся целу мацеры“.

Гэта пералічэнне вершаў аб жанчыне і каханні невыпадковае. Тэма жанчыны і кахання — генеральная тэма ў творчасці Багдановіча. Ніякі іншы матыў не заняў так значнай увагі пісьменніка, як матыў жанчыны і кахання. Багдановіч яўна ідэалізаваў жанчыну, захапляўся яе фізічным і духоўным хараством, пахваляў самаахвярнасць жанчыны-маткі. Некаторыя выказваюць меркаванні, што ідэалізацыя жанчыны Багдановічам вынікала з таго, што паэт не ведаў глыбей жанчын, што не меў з імі бліжэйшых фізічна-інтымных сувязей. Архіўныя знаходкі вядомага сучаснага беларускага паэта Алеся Бачылы, аўтара лібрэта оперы пра Багдановіча, пярэчаць гэтаму меркаванню. Багдановіч ведаў жанчыну не толькі з уяўленняў, але і з непасрэднага інтымнага кантакту. Беларускі паэт ведаў, несумненна, тэорыю вядомага рускага філосафа Салаўёва, які даказваў, што сусвет прыгожы тым, што напоўнены жаночасцю. Гэты тэзіс выкарысталі перш за ўсё рускія паэты-сімвалісты і сярод іх Аляксандр Блок. Цяжка сказаць, ці Багдановіч быў староннікам поглядаў Салаўёва. Факт аднак, што ў яго творчасці маем дачыненне з культавымі адносінамі да жанчыны. Багдановіч поўнасцю ўсведамляў безнадзейны стан свайго здароўя. Ведаў, што чакае яго заўчасная смерць. Прыйшоў, мабыць, да вываду, што ў такой сітуацыі не мае права звязваць на пастаянна сваё жыццё з жыццём жанчыны, што не можа запачаткаваць жыцця дзіцяці, што не можа быць ні мужам, ні бацькам.

Натуральныя інстынкты, аднак, пхалі яго ў бок уласнай сям'і, у бок жонкі і дзяцей.

Вось на грунце канфлікту паміж натуральнымі суб'ектыўнымі схільнасцямі і аб'ектыўнай немагчымасцю іх рэалізацыі радзілася феміністычная і любоўная лірыка Багдановіча. Багдановіча заманьвала візія кахаючага і каханага чалавека, клікала візія сем'яніна-мужа і бацькі. Гэтая візія была для яго ўтопіяй, але, вядома, што ўтопія, міраж, ідэя фікс могуць стаць крыніцай найпрыгажэйшых душэўных парываў, могуць акрыляць чалавека, напаўняць яго сэрца альтруізмам, рабіць яго высакародным. Могуць таксама стаць прычынай, інспірацыяй паэтычнай творчасці. Так было ў Багдановіча. Чым больш ён набліжаўся да канца свайго жыцця, чым больш гаслі яго фізічныя сілы, тым мацней разгаралася полымя яго лірыкі кахання. Уміраючага паэта праследвала візія нованароджанага дзіцяці, якое жыве, хаця і становіцца прычынай смерці маці. У такой сітуацыі становіцца ясным сэнс загалоўка цыкла феміністычных і любоўных вершаў — „Каханне і смерць“. У гэтым загалоўку выяўлялася асаблівасць надзеі і драмы Багдановіча.

(Працяг са стар. 2)

## ГОРАД СЛАЎНАГА МІНУЛАГА

сказалі, каб я выступіў. І нягледзячы на тэта, голас Міхалкова: „Зараз выступіць Баршчэўскі — пісьменнік з Польскай Народнай Рэспублікі“ — б'е мяне ў самае сэрца. Іду да мікрафона. Выступаю без перакладчыка. Гавару аб маіх ранейшых літаратурных уяўленнях аб Сібіры, аб традыцыях польска-савецкай дружбы, аб ахвярах савецкіх салдат у працэсе вызвалення Польшчы. Канчаю, аглушальныя апладысменты. Мабыць, спадабалася перш за ўсё тое, што чалавек з-за мяжы нядрэнна гаворыць па-руску. Ну, і пачалося. Паплылі на сцэну сотні кніжак рускіх пісьменнікаў, якія я мусіў падпісаць, выклікала мяне са сцэны нейкая жанчына, якая дала мне даныя аб паляках, што жылі ў яе доме ў перыяд вайны. Прасіла адшукаць іх у Польшчы. Некалькі асоб падарыла мне кнігі і пласцінкі. Узрушыла аднак мяне найбольш адна дзяўчына. Прынесла кніжку і прасіла падпісаць яе. Я напісаў, што жадаю ёй шчаслівага лёсу. Дзяўчыне схацелася зрабіць мне нешта прыемнае. Але як? У пэўным моманце нагнулася і вырвала каля ног у траве дзве кветачкі-рамашкі і дала іх мне. Гэтыя дзве рамашкі я захаваў і прывёз у Польшчу. Яны мне дарагія, як усякая чалавечая шчырасць.

Калі мы ўжо ішлі да аўтобусаў, падыйшла да мяне нейкая старэйшая жанчына. Сказала, што яна пенсіянерка, але многія гады працавала ў мясцовым архіве. Жанчына сказала, што ў гэтым архіве знаходзяцца цікавейшыя дакументы аб ссыльных паляках. На жаль, архіў ужо быў закрыты, а вечарам мы ад'язджалі з Табольска.

А 21.50 мы ўжо на судне. Праз дзесяць мінут раздаецца музыка, і судна памалу адплывае ад прыстані. Рушылі ўніз па Іртышы ў напрамку Обі. Глядзім у бок горада, на прыстань, на залітыя святлом караблі. Перад намі 1500 км воднага падарожжа.

**Алесь Барскі**




## „Лірычны дзённік Максіма Танка“ і інш.

Лодзінскі тыднёвік „Odgłosy“ ад 26 верасня г.г. публікуе артыкул Ігара Сікірыцкага „Лірычны дзённік Максіма Танка“, дзе піша:

„Багатай і надта разнастайнай з'яўляецца тэматыка вершаў Танка. Паэт, праўда, найчасцей — і слушна — пахіляецца над краявідам, цяперашнім і драматычным мінулым, якое ў апошнюю вайну пакінула свой асабліва крывавы след у беларускай айчыне; аднак не менш важным, амаль неадступным месцам ягоных пошукаў як рэфлексійнага паэта з'яўляецца драматызм біялагічных і гістарычных абумоўленняў чалавечага лёсу наогул.

Таксама схіляецца — крытычна, але без прадузятасці — над гуманнымі вартасцямі, што знаходзяцца ў іншых, гістарычных і сучасных светапоглядах, культурах, мастацтве; асабліва — старажытным і адраджэнскім, як і сярод здабыткаў літаратур іншых народаў. У ягоным аглядзе асабліва шмат месца займае культурнае мінулае, сучаснасць і польская літаратура, добрым знаўцам і заслужаным перакладчыкам якой з'яўляецца ён“.

Змешчаны два вершы Танка, якія пераклаў на польскую мову Ігар Сікірыцкі. (Друкуецца ў Лодзі кніжка Танка).

У тым жа нумары „Odgłosów“, побач, вядомы перакладчык беларускай літаратуры і яе папулярызатар у Польшчы Мацей Юзаф Кананові̇ч публікуе ўрывак з кніжкі Алеся Адамовіча, якая выйдзе неўзабаве ў польскім перакладзе і будзе называцца „Народжаная ў полымі“. Гэта запіс расказаў тых, што цудам уцалелі, калі нямецкія фашысты глумілі партызанскую Беларусь.

Моцнае!

**Сакрат Яновіч**

## Нараўка — курортам

На Гайнаўшчыне ёсць некалькі маляўнічых мясцін у гміне Нараўка. Тут пад самы пасёлак Нараўка падступае Белавежская пушча. Побач бяжыць рака Нараўка і крыху далей спалучае яна свае воды з Нарвай. Ужо цяпер некалькі тысяч чалавек праводзіць летам свой водпуск у ваколіцы Нараўкі, Янова, Семяноўкі, Плянты, Ляўкова, Капітаншчыны або ў прылясных, ціхіх, далёкіх ад вялікіх дарог вёсках Грушкі, Стачок і іншых. Клічуць сюды ціхія рыбныя тоні, грыбныя сасновыя лясы, здаровы лясны мікраклімат ды квяцістыя сенажаці.

Ужо вядома, што праз некалькі гадоў можна будзе адпачываць на берагах штучнага вадасховішча ў наваколлі Семяноўкі.

Нядаўна гмінная мясцовасць Нараўка і некаторыя навакольныя вёскі афіцыяльна прызнаны курортнымі мясцовасцямі. Таму адміністрацыйныя мясцовыя ўлады намераны ў бліжэйшыя гады пабудаваць у Нараўцы рэстаран і турыстычныя базы, адкрыць новыя цэнтры паслуг, замяніць вулічнае асвятленне на больш сучаснае, паклапаціцца пра прыватныя кватэры для турыстаў. Самі жыхары вёсак будуць будаваць новыя платы, упрыгожваць вонкавы выгляд дамоў.

Варта адзначыць, што сёлета ў пасёлку Нараўка былі перададзены ў карыстанне: новая пякарня, разлеўня газіраваных напіткаў, кіёск з марожаным.

Няма яшчэ пакуль што ў цэлай нараўкаўскай акрузе ніводнага дачнага доміка. Але гэтак будзе нядоўга. Згодна з запатрабаваннем, прадукцыю іх пачне дрэваапрацоўчы камбінат у Гайнаўцы.

(ця)

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

## ГАЛІНА ФІЛІМАНЮК



Галіна Філіманюк працуе бухгалтаршай у школе ў Чыжах, а таксама дапамагае бацькам на гаспадарцы ў роднай вёсцы Асоўка Гайнаўскага павету. З'яўляецца яна паважаным грамадскім дзеячом. Мясцовая моладзь выбрала Галіну Філіманюк старшынёю мясцовага гуртка Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі. З тае пары асоўскі гурток пачаў шматбаковую дзейнасць у вясковым асяроддзі. Юнакі і дзяўчаты пад яго кіраўніцтвам у рамках акцыі „Вясна чынаў“ пабудавалі „зялёную святліцу“ ў Асоўцы, загаспадарылі адзін гектар ПФЗ-этаўскіх зямельных угоддзяў, адрамантавалі дарогу на адрэзку Чыжы-Ракавічы. Усе члены ЗСМВ актыўна дапамагалі некаторым адзінокім гаспадарам пры ўборцы жыта і бульбы.

Цяпер моладзь больш увагі прысвячае культурна-асветнай дзейнасці. Ва ўсіх гэтых пачынаннях высока цэніць арганізатарскія здольнасці і ініцыятыву старшыні гуртка Галіны Філіманюк.

Сёлета Галіна Філіманюк выбіралася дэлегатам на Краёвы злёт перадавікоў працы і навукі.

Галіна Філіманюк выконвае яшчэ функцыю раднай гміны ў Чыжах, а таксама члена павятовага і ваяводскага праўленняў ЗСМВ.

Тэкст і фота **Я. Ц.**

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### САЛДАЦКАЯ




На го-ро - ды вэр- ба, пуд вэр-бо - ю во - да,



Там дыв-чы-на пры-крас-на-я, ой да, во-ды-цю бра - ла.



Там дыв-чы-на пры-крас-на-я, ой да, во-ды-цю бра - ла.

*На городы вэрба, пуд вэрбою вода,*
*Там дывчына прыкрасная, ой да, водыцю брала,*
*Там дывчына прыкрасная, ой да, водыцю брала.*
*Дівка воду бэрэ, козак коня вэдэ,*
*Пытается дывчыноньки: „Куды дорожэнька ідэ?“*
*Пытается дывчыноньки: „Куды дорожэнька ідэ?“*
*— І сюды вона ідэ, і туды вона ідэ,*
*Аж до тэі крынычэнькі там, дэ войско стояло,*
*Аж до тэі крынычэнькі там, дэ войско стояло.*
*А там старшы стояў, дробны лісты пісаў,*
*Молодэнькіх новобраньчыкуў по шэрэнгах росставляў,*
*Молодэнькіх новобраньчыкуў по шэрэнгах росставляў:*
*— Ах вы хлопці мої, новобраньці мої,*
*Спойте, спойте, тую песеньку, што сподобается мніе,*
*Спойте, спойте, тую песеньку, што сподобается мніе.*
*Хлопці радом сталі, громко песню спелі,*
*Дробненькімі слёзонькамі дорожэньку скропілі,*
*Дробненькімі слёзонькамі дорожэньку скропілі.*
*А там жоны ідут, жоны діеті нэсут,*
*А за намі, холостымі, красны діевушкі ідут,*
*А за намі, холостымі, красны діевушкі ідут.*

Ад Марыі Крук, 1930 года нараджэння, вёска Тапчыкалы Бельскага павету, запісаў 12 жніўня 1974 года Мікалай Гайдук. Нотны запіс з магнетафоннай стужкі зрабіла Людміла Панько.




### СМЫКОМ ПА СЭРЦЫ

Навошта ў чалавеку струны існуюць? Закрань абы-якую — гул ідзе. Вясёлую — і рогат півам пеніцца. А сумную — мо кіпцюры скрабуць.

Бо дзе той Бельск? Ёсць іншыя ліцэі. Славутыя ў гісторыю ўбітымі цвікамі. А я да вас імкнуся, хлопцы і дзяўчаты. На вашай ноце думкі мне пяюць — спеўку матчыную.

Бо не ўдалося піць мне з тых крыніц, дзе кожны дзень купалле іскрыцца, дзе летні вечар коласам шуміць, дзе ловіш кожны гук, каб не забыцца — хто ты.

І злосць бярэ, і мнеш ў руках паперу, і шчыміць нешта болем пад грудзьмі, і марыш вось, каб двойку хто паставіў за мову родную, сярод сваіх, ў сям'і.

А вас ужо грамада. Шарэнгі і плутоны ў свет пайшлі, каб долю зваяваць. Сярод бландзінаў, рыжых і чарнявых ніводнага, здаецца, не пазнаць.

І струна бракнула. І вось пазыў сваячы вас склікаў у той скромны родны кут.

І цяжка мне. Хацелася б быць з вамі. З штодзённай муці плёснуцца ў стругу той плыні беларускай, ў ліцэі выхаванай.

Гаворкай роднаю заліць тугу.

**Ларс**

## Увага, чытачы, якія выпісваюць „НІВУ“ за граніцу!

У папярэдніх нумарах быў змешчаны кепскі (не па нашай віне) нумар конта БКВЗ. Грошы на падпіску „Нівы“ з высылкай за граніцу трэба высылаць на адрас:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych Wronia 23, Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024
(конта старое, што было і ў папярэдніх гадах). За памылку просім прабачэння.

## ВЫПІСАЦЬ „НІВУ“

можна: у пісьманосца, ля паштовага акенца або ўплочваючы грошы чэкам на рахунак RSW „Prasa-Książka-Ruch” I Oddział Rejonowy w Białymstoku, ul. Kopernika 93, nr konta **102-6-161** NBP I Oddział Miejski Białystok.

Цана падпіскі: на квартал — **7,20** зл; на паўгода — **14,40** зл; на год — **28,80** зл.

Можна таксама «Ніву» выпісаць знаёмым за мяжу. Падпіску на заграніцу прымае: RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych Warszawa, Wronia 23, konto PKO nr **1-6-100024**

Цана падпіскі для заграніцы вышэйшая за краёвую на 40 працэнтаў. Гадавая — **40,40** зл.

Многа у жыцці губляеш, калі „Ніву“ не чытаеш!

## Этнаграфічнае акенца



Народная ткачыха Пелагея Юхневіч з вёскі Ястшэмбна Аўгустоўскага павету на II Агульнапольскім кірмашы народнага мастацтва ў Кракаве (30.06 — 4.07.1974 г.). Гэты дзвюхасноваваы дыван яна выткала спецыяльна на кірмаш і назвала яго „Аўгустоўскія азёры“. Фота М. Гайдука.

## Кансультацыя юрыста

**ПЫТАННЕ:** Я арандаваў участак зямлі, якая належыць да дзяржаўнага зямельнага фонду. Умова была заключана на тры гады, але не была дэнансіравана ўладамі і аўтаматычна прадоўжвалася. Зямлю, такім чынам, апрацоўваю 12 год. Я чуў, што ўчастак гэты мае быць прададзены іншай асобе. Ці набыў я уласнасць з-за даўнасці, а калі не, ці прыслугоўвае мне права першынства?

**АДКАЗ:** Па закону з 26 кастрычніка 1971 года, той, хто арандаваў зямлю больш чым пяць год да 4 лістапада 1971 года, мае права звярнуцца ў прэзідыум павятовай рады нарадовай з просьбай прызнаць уласнасць. Гэта не адносіцца да выпадку, калі ўласнікам зямлі дагэтуль быў селянін, які займаецца сельскай гаспадаркай, або дзяржава. Паколькі ў гэтым выпадку ўласнікам з'яўляецца дзяржава, арандатар не набыў права ўласнасці і не мог бы яе набыць, нават калі б арандаваў зямлю звыш дваццаці год.

Аднак закон з 26.X.1971 г., якім зменены грамадзянскі кодэкс, увёў новае правіла, паводле якога, калі ўмова арэнды сельскагаспадарчай нерухомай маёмасці заключана на перыяд даўжэйшы, чым тры гады, або фактычна працягвалася прынамсі дзесяць год, арандатару прыслугоўвае права першынства ў выпадку продажу гэтай маёмасці.

Дзяржава можа прадаць гэту зямлю толькі пры ўмове, што арандатар не скарыстае з свайго права першынства. Калі б прадала зямлю асобе трэцяй, безумоўна, умова была б няважнай і арандатар мог бы праз суд дабівацца сваіх правоў.

## Куток практычных ведаў




### ДОЎГІЯ КУРТКІ

Нікога не трэба пераконваць сёння, якой практычнай часткай жаночай вопраткі з'яўляюцца надалей модныя доўгія штаны. І трэба прызнаць, што жанчыны сквапліва скарысталі з гэтай моды. Аднак кожная новая мода патрабуе да сябе ўвагі. Ці прыгожа выглядае жанчына ў доўгіх штанах і ў кароткім прамым паліто? Не! Калі ўжо паліто, дык мае яно быць дапасаванае ў таліі і даўжэйшае.

Але ўсё ж найпрыгажэй пры доўгіх штанах выглядаюць курткі. У адным з папярэдніх нумараў мы пісалі аб тым, што вельмі car моднымі з'яўляюцца карсткія курткі, якія носяць з доўгімі штанамі. Аднак з'яўляюцца яны практычнымі толькі на раннюю восень; калі ж становіцца халадней, то добра, як ныркі прыкрыты. Таму прапануем сёння вашай увазе некалькі фасонаў доўгіх куртак, якія можна шыць як з нейкага ваўнянага матэрыялу, так і з футра (натуральнага ці штучнага), можна спалучаць таксама розныя віды тканін. Варта ведаць таксама, што модныя сёння і шырокія курткі, не дапасаваныя ў таліі (адну з іх вы бачыце на здымку).

**Сяброўка**



## Сардэчныя тайны

**Дарагое „Сэрцайка“!**

Са Слаўкам знаёмы мы яшчэ з дзіцячых год. З выгляду, можна сказаць, нічым не вылучаецца сярод сяброў: не брыдкі, сярэдняга росту, як большасць хлопцаў. Але вылучаецца сярод іх характарам — спакойны, ураўнаважаны, усюды вядзе сябе культурна, з пашанай адносіцца да старэйшых людзей. Доўгі час я лічыла яго самым лепшым сябрам. З ім магла шчыра пагаварыць, расказаць аб сваіх клопатах, лічыць на яго дапамогу. Але час ішоў, і цяпер мы шчыра кахаем адзін другога. Цяпер Славэк у войску. Увесь час мы перапісваемся, чакаем цярпліва заканчэння службы, але ўжо неўзабаве Славэк вернецца, і мы маем намер тады пажаніцца. Здавалася б, усё на добрай дарозе, але перашкаджае ў нашых планах яго маці. Калі, будучы ў водпуску, сказаў аб усім ёй, яна сказала, што не дазволіць, каб са мной ажаніўся, паколькі ўжо прыкмеціла яму адпаведную дзяўчыну. Аб гэтым ведаюць усе ў вёсцы. Славэк, аднак, кажа мне, што ажэніцца толькі са мною і нікога тут слухаць не будзе. І калі маці не супакоіцца, ён прыдзе жыць пасля вяселля да мяне, хаця ён адзін у бацькоў. У лістах просіць, каб я чакала, каб нікога не слухала. Я вельмі кахаю Слаўка, але часамі і такія думкі прыходзяць, што можа лепш было б нам расстацца. А што **ты, „Сэрцайка“, мне параіш?**

**Бязрадная Ліля**

**Ліля!** Не падай духам. Вы ж кахаеце адзін другога. Чаго тады гаварыць аб расстанні? Што не згаджаецца маці? Вядома, непрыемна гэта. Але гэтак здараецца не толькі ў вас. Не заўсёды ўсё гладка ўладжваецца. Але выйсце знайсці можна. Славэк нават ужо падказаў. Маці, мо не адразу, але напэўна супакоіцца. Яна ж не вораг свайму сыну. Напэўна зразумее сваю памылку, і праз нейкі час усё ўладкуецца.

**„Сэрцайка“**




Урэшце начальнік нешта загадаў, разы два пратупаў па хісткіх дошках падлогі і, не зірнуўшы на Клімчанку, выйшаў з зямлянкі. Канваір з аўтаматам таксама выйшаў і стаў за дзвярыма. Праз чыста працёртую шыбіну лейтэнант убачыў яго плячо з пагонам, казыркастую шапку, далей быў канец будкі-кузава з плямістым асеннім камуфляжам і літарамі „FW“ у белым квадраце. Чакаючы, што будзе далей, Клімчанка зірнуў на таго, што застаўся з ім, і прыкмеціў, як пакорліва-паслушны выраз яго твару саступіў месца самазадаволенай упэўненасці.

— Ну, лейтэнант, пачнём размову, — на чысцейшай рускай мове сказаў ён, і ад нечаканасці Клімчанка аж страпянуўся. Немец, нібы і разлічваючы на тое, паблажліва заўсміхаўся, дастаў з кішэні бліщчасты партабак, раскрыў і, стоячы пасярэдзіне зямлянкі, працягнуў яго Клімчанку.

— Курыш?

Пачуўшы гэтыя, такія нечаканыя тут словы, лейтэнант, які ўвесь час быў у празмерным для яго напружанні, хіснуўся. Каб не ўпасці, ён ухапіўся рукою за адшалёваную сцяну зямлянкі, недарэчныя двое людзей на плакатах заскакалі ў вачах. Немец, убачыўшы тое, нерашуча прыкрыў партабак.

— Э, ды ты ж, здаецца, паранены! Што ж яны не сказалі? Ну, гэта драбяза: падлечым. Сядай вось! — Ён грукнуў на сярэдзіне падлогі выхапленым з кута зэдлікам, у дошцы якога была дзірка для рукі, і лейтэнант бяссільна апусціўся на яго. Афіцэр расчыніў дзверы, нешта крыкнуў у падворак, там затупацелі боты, пачуліся галасы. Ад свежага паветра знадворку ў зямлянцы адразу пахаладзела, і Клімчанка трохі саўладаў са сваёю слабасцю. Кволы агеньчык трапятка біўся ў плошчы.

Неўзабаве паблізу застукалі боты, і ў зямлянку ўваліўся камлюкаваты, немалады ўжо немец з нездаровым аплыўшым тварам. Ад яго патыхала дустам і вострым пахам нейкіх лякарстваў. Нягучна буркаючы, ён садраў з Клімчанкі перапэцканы і пашкуматаны ў байцы паўшубак. Лейтэнант вяла падпарадкоўваўся яго настойлівым рухам, яму ўжо было ўсёроўна, хто і што зробіць з ім. Ён хацеў толькі спакою і невідушчым позіркам глядзеў, як па дошках вакол зэдліка тупалі растаптаныя, шырока расстаўленыя боты. Рукі немца, бесцырымонна паварочваючы яго галаву, палязгалі ля вуха нажніцамі, і на падлогу ўпалі светлыя зблытаныя пасмы валасоў. Патыліца, відаць, была моцна разбіта і балела, але ён трываў усё, толькі аднаго разу здрыгануўся, калі ў ране запякло лякарства. Неўзабаве, аднак, немец спрытна абматаў галаву рудаватым папяровым бінтам, туга спавіў павязкаю і сабраў у сумку сваё начынне. Увесь гэты час той, у мундзірчыку, пускаючы пад столь дым, сядзеў на рагу стала і з ухмылкай назіраў за ім.

— Ну, так лепш? — проста і нават са спагадай запытаў гэты чалавек, калі санітар грукнуў дзвярыма і яны засталіся ўдваіх. — Гэта вылечаць. У немцаў медыцына, як у нас кажуць, на вышыні. У нас, гэта значыць, — у рускіх. Не здзіўляйся. Я рускі. Як і ты. Масквіч. На Таганцы жыў.

Клімчанка ўжо адышоў ад першага здзіўлення і адзначыў сабе, што тут, відаць, да ўсяго трэба быць гатовым. Знарочыстая добразычлівасць і клопаты гэтага чалавека наводзілі лейтэнанта на думку, што чакае яго нялёгкае.

— Цікава, лейтэнант, а ты адкуль будзеш родам? — пытаўся гэты чалавек.

— Там напісана. Мусіць, граматны, — сказаў Клімчанка, зірнуўшы на стол з рассыпанымі на ім дакументамі. Чалавек у мундзірчыку, усміхнуўшыся неадабральна, перасмыкнуў русым брывом.

— Ну, вядома, там усё напісана. У нас, то есць у вас, на гэты конт поўны парадак. Як кажуць: ажур. І дзе радзіўся, і дзе жаніўся, і дзе хрысціўся. І ці быў за мяжой, і ці меў хістанні. Я гэта ведаю, — зусім неяк проста і нават дружалюбна сказаў ён і ўстаў з-за стала. — Сам быў такі.

Ён з ухмылкай спыніўся перад Клімчанкам і выпусціў над яго галавой струмень дыму.

„Што за тон? Дзеля чаго?“ — думаў Клімчанка. Перамагаючы ў сабе абыякавасць да свайго лёсу, якая ўсчалася ў ім там, у траншэі, ён мерыўся цяпер вызначыць, што б уся гэта камедыя магла значыць. Распрануты, у адной гімнасцёрцы, з кубікамі на пятліцах, — пагоны толькі нядаўна ўвялі, і ён яшчэ не паспеў іх прыладзіць, — без дзягі, з абабязанай галавой, ён, нібы арыштант перад следчым, сядзеў на сярэдзіне зямлянкі і насцярожана слухаў. А той з задавальненнем, амаль радасным выразам на хітраватым твары, нешта мяркуючы, аглядаў яго.

— Ардзянок даўно атрымаў? — кіўнуў ён на зорку над левым кішанём.

— Увосень, — сказаў Клімчанка.

— За абарону, наступленне?

— За акружэнне.

— Ну што ж. Гэта нічога. Нават лепш. Заслужаны, баявы афіцэр, — маючы на ўвазе нешта сваё, сказаў чалавек і бадзёра прапанаваў:

— Можа, аднак, пазнаёмімся? Я — Чарноў. На жаль, не Бялоў, але што зробіш, — засмяяўся ён, і ўнутры ў Клімчанкі нешта аж абарвалася, такая

